З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

## Узраслі зарплаты…

19 студзеня Сяргей Румас падпісаў пастанову Савета міністраў “Аб павелічэнні ўзроўню аплаты працы ў сферах адукацыі і аховы здароўя”.

Павышаюцца тарыфы акладаў памочнікаў выхавацеляў з 20 да 25 працэнтаў, урачоў-спецыялістаў – з 20 да 24, медработнікаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй – з 13 да 16, фармацэўтаў з сярэдняй спецыяльнай адукацыяй – на 1 працэнт.

Дакумент набыў сілу з 1 студзеня 2019 года.

КРИМИНАЛ

## Ружье, обрез, револьвер…

22-летний житель Любани Минской области подозревается в незаконном хранении и продаже оружия. Любанский районный отдел Следственного комитета возбудил против него уголовное дело за незаконные действия в отношении огнестрельного оружия и боеприпасов, ему грозит до 12 лет лишения свободы.

По данным следствия, молодой человек незаконно хранил в доме двуствольное ружье «ИЖ-58 МА», обрез винтовки «ТОЗ-8М», самодельный револьвер, 176 патронов разного калибра. По словам подозреваемого, все это досталось ему в наследство от отца.

До того, как милиция изъяла этот арсенал, подозреваемый уже успел продать часть его 27-летнему жителю Солигорска. Следствие по этому делу продолжается. Подозреваемый дал признательные показания, и мера пресечения к нему не применена.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

Роман БЕЗСМЕРТНЫЙ:

## «Не стесняйтесь быть счастливыми!»



Экс-посол Украины в Беларуси, политик Роман Безсмертный выставил на своей странице в “Фейсбуке” фотографию, на которой обнимает свою жену Татьяну Мокриди.

*«Объятия греют и успокаивают. Объятия оказывают поддержку. Объятия поднимают настроение и помогают выразить чувства… Обнимайте чаще любимого человека, детей, родителей, друзей! И позволяйте обнимать себя. Не стесняйтесь быть счастливым и делать счастливыми других. Делитесь своим теплом!»* – подписал фото дипломат и политик, который будет баллотироваться на пост президента Украины.

У Романа Безсмертного это второй брак. В своих интервью он рассказывал: *«У нас с Татьяной на двоих – 4 детей и уже двое внуков, еще есть крестные дети и дети друзей – пошел такой своеобразный обмен вещами. У нас кочуют кроватки, коляски, игрушки. Это нормально. Нашим с Татьяной детям почти 6 лет, а внукам по году-два, и сегодня это абсолютно нормальная ситуация, когда ты выглядишь как дедушка и отец одновременно.*

*Ценность человека, ценность семьи – вот ради чего должны работать все институты государства. Любой закон должен приниматься, исходя из интересов человека и семьи».*

**Вера ВИР.**

ПРАГНОЗ

## На гэтым тыдні маразы могуць дайсці да 21 градуса, але ўжо на выхадныя пацяплее



22 студзеня ў аўторак, ноччу -4…-10°С, максімальная тэмпература днём -2…-7°С; па поўначы -11…-16°С, пры праясненнях да -17…-21°С, днём тэмпература не вышэй за -8…-13°С.

У сераду ноччу -6…-13°С, пры праясненнях да -14…-18°С, днём -3…-10°С.

24 студзеня, у чацвер, ноччу -8…-15°С, пры праясненнях -16…-21°С; днём -4…-10°С, месцамі не вышэй -11…-12°С.

У пятніцу ноччу -10…-17°С, пры праясненнях -18…-21°С, у паўднёва-заходніх раёнах -7…-9°С; максімальная днём -5…-12°С.

Калі верыць прагнозам, то ўжо ў выхадныя мароз аслабее.

СІТУАЦЫЯ

# «Я вельмі стамілася так жыць...»



*Вольга Макарэвіч з Гродна хацела спагнаць з прадпрыемства, на якім працуе, маральную кампенсацыю, але ў яе нічога не атрымалася. Гаворка не пра незаконнае звальненне ці запазычанасць па зарплаце: доўгі час жанчына не атрымлівала гарантаваную законам выплату на дзіця-інваліда. Пра змаганне за свае правы і горкі лёс яна вырашыла распавесці чытачам “Народнай Волі”.*

### Такіх дзетак у Беларусі ўсяго восем

Вольга Макарэвіч – маці-адзіночка. Яе сын Максім у 9 гадоў атрымаў пасведчанне інваліда, зараз яму адзінаццаць. У хлопчыка вельмі рэдкае генетычнае захворванне – хвароба Вілебранда, яна звязана з парушэннем згусальнасці крыві. Такіх дзетак у Беларусі, паводле слоў спадарыні Вольгі, усяго восем. Яна з Максімам жыве ўдваіх у звычайнай гродзенскай двухпакаёвай кватэры, хлопчык ходзіць у пяты клас, добра вучыцца.

Пасля атрымання сынам інваліднасці спадарыня Вольга звярнулася па месцы працы – на прадпрыемства “Гроднапрамбуд” – з адпаведнымі дакументамі, каб ёй прадаставілі гарантаваную дзяржавай дапамогу на дзіця-інваліда. У бухгалтэрыі жанчыне патлумачылі, што з яе заробку будуць вылічваць зменшаны падаходны падатак, а таксама напрыканцы года яна мае права на атрыманне матэрыяльнай дапамогі. Гэтымі льготамі Вольга і карысталася з лютага 2016 года.

У снежні 2017 года спадарыня Макарэвіч атрымала паведамленне з упраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва з пералікам усіх ільгот і выплат, належных сям’і, у якой выхоўваецца дзіця-інвалід. Вольга зразумела, што ніколі не атрымлівала гарантаваную ёй заканадаўствам *“дзяржаўную дапамогу на дзяцей старэйшых за тры гады з асобнай катэгорыі сямей”*. Прычым за 20 месяцаў нарасла значная сума – звыш 4 тысяч рублёў.

### “Ты сама ва ўсім вінавата...”

З пералікам ільгот і выплат жанчына звярнулася ў бухгалтэрыю прадпрыемства “Гроднапрамбуд”, дзе працавала інжынерам-праекціроўшчыкам, і пацікавілася, на якой падставе ёй не выплачваюць дзяржаўную дапамогу.

Але тут спадарыню Макарэвіч сустрэла нечаканасць. Ёй заявілі, што яна сама ва ўсім вінавата: маўляў, не падала заяву на дапамогу, не прынесла адпаведных дакументаў... Вольга спрабавала тлумачыць, што гэта бухгалтарка ўвяла яе ў зман, але тады, са слоў жанчыны, яе пачалі абражаць. І гэта, нягледзячы на тое, што супрацоўніца бухгалтэрыі ў той час была на прадпрыемстве сябрам камісіі па прызначэнні дзяржаўнай дапамогі.

*“На той момант у нас была вельмі складаная сітуацыя, паколькі дзіця моцна хварэла, на працягу года і васьмі месяцаў яго каля 20 разоў шпіталізавалі*, – згадвае спадарыня Вольга. – *Я разрывалася паміж шпіталем і працай, але на мае праблемы ніхто не зважаў”.*

Макарэвіч хадзіла на прыём да кіраўніцтва “Гроднапрамбуда”, прасіла, каб законную дапамогу ёй выплацілі – няхай не адразу, а часткамі, але просьбы так і заставаліся незадаволенымі. Ёй прапанавалі скардзіцца ў вышэйстаячыя арганізацыі, але, маўляў, плаціць нічога не будзем.

### Быў суд, потым яшчэ адзін...

Вольга Макарэвіч звярнулася ў Кастрычніцкі суд Гродна з іскам аб вяртанні дзяржаўнай дапамогі на дзяцей старэйшых за тры гады з асобнай катэгорыі сямей. Адбылося ці не восем пасяджэнняў суда, і ў выніку ёй было адмоўлена ў іску.

Ужо амаль без эмоцый спадарыня Вольга згадвае, што ў судзе тая ж бухгалтарка выпаліла ёй прылюдна: маўляў, вы і так нядрэнна выглядаеце, навошта вам яшчэ тая выплата ад дзяржавы?..

*“Мне было крыўдна і незразумела, як такое можа быць: дзяржава гарантуе майму хвораму дзіцяці дапамогу, а я ў судзе не магу яе дабіцца. Нават Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва стаў на бок прадпрыемства*, – згадвае спадарыня Макарэвіч. – *А адмовіцца добраахвотна ад дзяржаўнай дапамогі я не магла: у 2016 годзе сын быў на лячэнні за мяжой, паколькі ўрачы ў Беларусі нічога не маглі зрабіць. Мы мелі тады велізарную патрэбу ў грашах. Мой заробак складаў усяго 500 рублёў, і калі б не дапамога родных, то не ведаю, што і рабіла б”.*

Дарэчы, Вольга ўпэўнена, што калегі добра інфармаваны пра хваробу і стан яе сына: наколькі яна ведае, з 60 чалавек, якія працуюць у праектна-тэхнічным упраўленні прадпрыемства, толькі ў яе адной дзіця-інвалід.

Пасля суда, які яна прайграла, паводле слоў Вольгі, на працы на яе пачаўся ціск, пагрозы звальнення: маўляў, не працягнем кантракт і г.д. Рашэнне Кастрычніцкага суда Гродна абскардзіла абласная пракуратура.

*“Начальнік аддзела кадраў крычала на мяне ў калідоры, каб я не давала больш ніякіх сведчанняў у судзе*, – згадвае спадарыня Макарэвіч. – *Усе папросту спрабавалі заткнуць мне рот, а пра маю бяду ніхто не цікавіўся. Я перажыла тады страшныя часы, не ведала, як жыць і як далей гаварыць і працаваць з гэтымі людзьмі...”*

Абласны суд касацыйную скаргу задаволіў. А на працы Вольгу адхілілі ад часткі абавязкаў, якія яна выконвала. У выніку перажытага жанчына сама трапіла да ўрачоў: з’явілася арытмія, давялося ісці на прыём да кардыёлага і доўгі час лячыцца.

*“Пасля таго як аб рашэнні абласнога суда паведамілі на адным з гарадскіх сайтаў, юрыст “Гроднапрамбуда” пачала размяшчаць пад матэрыялам каментарыі, якія дыскрэдытавалі маю асобу. Прычым рабіла гэта ў працоўны час на працоўным камп’ютары*, – згадвае спадарыня Макарэвіч. – *Мне прыйшлося напісаць заяву ў міліцыю, распачалі адміністрацыйную справу. Не ўяўляю, навошта ёй было гэта рабіць...”*

### Іск не задаволілі

Праз некаторы час Вольга Макарэвіч падала іск у Кастрычніцкі суд Гродна на “Гроднапрамбуд”, юрыста і бухгалтара гэтага прадпрыемства з патрабаваннем кампенсаваць ёй маральныя страты і кошт лекаў, якія пайшлі на аднаўленне здароўя, згубленага падчас судовых цяжбаў. Была вызначана сума кампенсацыі – больш за 10 тысяч рублёў.

*“У іску я адлюстравала канкрэтныя рэчы: і тое, колькі ўрачоў мне давялося прайсці і колькі грошай пайшло на лекі, і тое, што мяне незаконна пазбавілі часткі працы. Канстатавала, што ў ходзе папярэдняга суда было выяўлена, як мне не плацілі гарантаваную дзяржавай дапамогу на дзіця, як адмаўлялі ў бясплатным санаторна-курортным лячэнні, пазбавілі мяне магчымасці мець адзін дадатковы выхадны дзень для догляду хворага дзіцяці, гарантаваны, дарэчы, калектыўнай дамовай (такіх дзён набралася 59)”*, – пералічвае спадарыня Вольга.

Суд Кастрычніцкага раёна Гродна іск не задаволіў. Жанчына звярнулася з касацыйнай скаргай у абласны суд, але і калегія абласных суддзяў вынесла рашэнне не на яе карысць.

*“Усё ізноў ідзе па тым жа коле*, – кажа Вольга. – *У мяне ўжо няма сіл з імі змагацца, але няма і іншага выйсця. Канешне, да абласнога суда я павінна была юрыдычна падрыхтавацца на больш высокім узроўні, але ў мяне няма юрыдычнай адукацыі, а наняць адваката не было за што”.*

### Каб уявіць перажытае...

Хваробу 11-гадовага Максіма вылечыць нельга, але з ёй можна жыць, калі пастаянна сачыць за станам здароўя. Ускладняе сітуацыю тое, што ў хлопчыка выявілі пухліну над левай ныркай. Новаўтварэнне дабраякаснае, не расце, расказвае спадарыня Вольга, але выклікае выкід гармонаў, што прыводзіць да падвышэння ціску і стварае рызыку інсульту: *“Ціск у дзіцяці падскоквае да 180, і кроў пачынае ісці з носа, з вачэй, з рота... Я, калі першы раз з гэтым сутыкнулася, думала, што з’еду з глузду: дзіця плача крывавымі слязьмі, а я нічога не магу зрабіць...”*

Нават каб вырваць зуб, дзіцяці для прафілактыкі неабходна прымаць дарагі прэпарат “Вілат”. З яго атрыманнем таксама былі вялікія праблемы. Прэпарат не прадаецца ў аптэках, яго можна замовіць толькі праз абласны аддзел аховы здароўя, але там таксама сядзяць людзі, якіх, відавочна, не вельмі цікавяць чужыя балячкі.

*“Замест “Вілату” сыну ўлівалі “Актанат”, які не зусім падыходзіць пры яго хваробе, але значна таннейшы*, – распавядае спадарыня Вольга. – *Калі пачынаецца прыступ, дзіцяці з прамежкам 12 гадзін уліваюць чатыры флаконы. Адзін такі флакон каштуе каля тысячы еўра”.*

Паколькі ў Беларусі такія прэпараты не выпускаюцца, дзяржава бярэ на сябе іх набыццё і забеспячэнне імі тых, хто мае патрэбу. Толькі вось чыноўнікі на месцы, уздыхае спадарыня Макарэвіч, заўсёды знаходзяць спосаб, каб ускладніць сітуацыю.

*“Я вельмі стамілася так жыць, але спыніць змаганне за сябе і свайго сына не магу. Папросту няма іншага выйсця. І я перастала ўжо ўсяго баяцца”*, – заключае Вольга Макарэвіч.

І сумна дадае, што яе Максім і зараз знаходзіцца ў шпіталі ў Мінску.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

**Здымак аўтара: Вольга Макарэвіч.**

ЗЕМЛЯ И НЕБО




## Филарет шел, опираясь с двух сторон на руки молодых алтарников

Годы и невзгоды делают свое дело с каждым, даже с таким выдающимся человеком, как митрополит Филарет. На Крещение Господне прихожане ждали его, почетного экзарха, в домовом храме Минского епархиального управления. Волновались. Переспрашивали друг у друга: «Придет?» К сожалению, он уже не так силен физически...

Филарет появился примерно в половине одиннадцатого утра. Но еще минут за десять было ясно, что кто-то важный находится внизу и вот-вот поднимется на лифте. Хотя люди, собравшиеся на богослужение в домовой храм, скромны и предупредительны, как, наверное, нигде на земле (место обязывает!), охрана всегда остается охраной: буквально легким движением руки она смахнула толпу, освободив широкий проход к двери. Конечно, никто не возроптал. Стояли, обратив взоры в конец коридора. Филарет шел, опираясь с двух сторон на руки молодых алтарников. Он не смотрел по сторонам, ему уже нет сил, как раньше, раздавать без меры свою энергию и благодать окружающим. Похудевший… Осунувшийся. Но, как всегда, возвышенно строгий. Прекрасный. Сосредоточенный на главном, на том, что глубоко внутри.

Я не видела владыку более полугода, с Пасхи. Знала только от директора Национального художественного музея Владимира Ивановича Прокопцова, который время от времени имеет возможность навещать митрополита, потому что его дети Антон и Павел – крестники Филарета, что он в хорошем настроении. На Рождество владыка даже подарил директору маленькую иконку, передал, как всегда, коробку конфет его сыновьям и жене Вере Павловне. Директор музея в свою очередь пригласил почетного экзарха на выставку ярославских икон (а Ярославль – родина Филарета), которая откроется в музее в апреле, в месяц рождения владыки. И он пообещал прийти! Мы говорили об этом с Владимиром Ивановичем и радовались: значит, чувствует в себе силы наш патриарх. Но вот увидела митрополита на Крещение сама, и сердце тронула печаль: как нелегко ему сейчас, наверное, дается этот оптимизм, светлое настроение, когда тело так ослабело и подводит этот незаурядный дух.

Всю литургию Филарет провел на амвоне за иконостасом. Конечно, там был приготовлен для него стул или даже кресло – стоять службу ему уже не под силу. Владыка прошел туда сразу же, как освятил себя крестом и поклонился иконе «Собор белорусских святых». Стоит заметить, что это была его личная инициатива еще в 1984 году – установить список, собор новомучеников, кто пострадал в период репрессий 1930–1950-х годов. Сейчас он возрос до 79 угодников Божиих, чья деятельность была неразрывно связана с землей белорусской. И собор продолжает расти и поныне.

Позже в официальном сообщении от епархиального управления было сказано, что митрополит Филарет молился и причастился святых христовых тайн за Божественной литургией в домовом храме. Затем владыка ушел – так же молча и довольно тяжело ступая по коридору. А мы, простые смертные, стали в очередь за освященной водой: ее здесь разливали в заранее приготовленные бутылки и бутылочки. Мне достался маленький трехсотграммовый флакончик синего стекла – будто цвета неба в Иордане, где принял омовение Христос... Конечно, некоторые набирают в Крещение воду ведрами, чтобы омываться от грехов, как в бане. На самом деле и одного глотка достаточно, чтобы почувствовать себя защищенной. Дело не в количестве воды, а в истинном чувстве. Как сказано в Библии: «По вере вашей и да будет вам».

**Елена МОЛОЧКО.**

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## Міхаіл Фінберг запрашае ў Заслаўе

*22 студзеня тут пройдзе XVI свята музыкі “Заслаўе-2016”.*

У Заслаўскай дзіцячай школе мастацтваў адбудзецца абласны конкурс юных выканаўцаў ДШМ Мінскай вобласці “Заслаўскі сшытак” на лепшае выкананне твораў беларускіх кампазітараў. Потым будзе канцэрт для пераможцаў, падрыхтаваны Нацыянальным акадэмічным канцэртным аркестрам Беларусі.

Завершыцца музычны дзень вялікім канцэртам “Трыумфуем разам з Бацькаўшчынай”, удзел у якім возьмуць салісты – лаўрэаты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў. Сярод іх заслужаная артыстка Беларусі Наталля Тамела, Дзмітрый Качароўскі, Прыма-Вера, Яна Старцава, Валерыя Грыбусава, Руслан Мусвідас і іншыя.

Канцэртнай пляцоўкай стане заслаўскі гарадскі Дом культуры “Світанак”.



## КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

### Не ўзбагацеў

Рашыў не бедна жыць, калі
Стамлюся-пастарэю,
Ды не знайшліся два рублі,
На жаль, на латарэю…

### Два шляхі

Дзед Нічыпар уранку,
Распачаўшы бяседу,
Выгаворваў за п'янку
Маладому суседу:
– Выпіваеш ты спраўна.
Толькі знай, чалавеча:
Шлях да шлюбу – праз страўнік,
Да разводу – праз печань…

### Паабяцаў, дык зробіць

І будзе ўсё належна-чынна!
Муж выканае просьбу тую:
Калі паабяцаў мужчына,
Дык зробіць ён, адрамантуе,
Пазабівае шпінгалеты
І шторы на акно павесіць…
Але не трэба ўсё ж пра гэта
Яму нагадваць кожны месяц!

### Неблагі шлюб

– Ну як сямейны быт? –
Сябры
Чакаюць шчырага адказу.
– Жаніўся, дык з тае пары
Не пасварыўся з ёй ні разу.
Лічыцьму: шлюб наш неблагі,
Як гэтак пройдзе й дзень другі…

### Не ў твар, дык у каву

– Як успыхвала сварка-пажар,
Я падносіла каву ўсё роўна:
Плюнуць любаму проста ў твар,
Безумоўна,
Было рызыкоўна…

### Роздум бацькі

Пабудаваў дыхтоўны дом
З сасновым зрубам.
Мы з жонкай, сынам там жывём,
Ды сын – дуб дубам.
І часам думаю, дальбог:
Дык, можа, дрэва,
Каб я сканаць спакойна змог,
Саджаць не трэба?..

### Збылася мара

Збылася ўрэшце мара Любы:
Сумела павялічыць губы.
Дапамаглі яе бацькі,
Калі пачулі мацюкі…

### Грош цана

Я пачуў ад цёткі Цылі
(Вельмі мудрая яна):
– Пры бясплатнай медыцыне
І здароўю грош цана…

### Хто ж награшыў?

– Муж падарыў учора кветкі…
І я гадаю нездарма:
Ці ён прайшоўся да суседкі,
Ці награшыла я сама?..

### Галоўнае – не маргарын

Як упаў мой бутэрброд
Знізу маслам,
Вера ў правільны зыход
Не пагасла.
А чаму ж настрой не скіс?
Гэткім чынам
У кагось ляціць уніз
Маргарынам…

### Не пашанцавала

Сюрпрызы-выбрыкі дарога
І ў будні выдае, і ў святы:
ДАІ спыніла панятога,
А той – паддаты…

### Калі канчаецца дзяцінства

Прайшлі дзіцячыя дзянькі
(А значыць, забаўляцца годзе),
Як пачынаюць біць бацькі
Не па азадку, а па мордзе…

### Быццам дрэва

– Павіншуй: дзявяты раз
Замуж выдацца гатова я!
– Ты як дрэва сярод нас:
Што ні год,
То кольца новае…

### Бедная цешча

Шуруе ў банку рабаўнік.
Спаўзла на нейкі момант маска.
Бадай, касір ягоны лік
Паспеў убачыць – ёсць апаска.
Адразу ж – стрэл.
Касір – мярцвяк.
Навёў на залу ствол гарачы.
Там вельмі многа небарак.
– А хто яшчэ мой твар убачыў? –
Ён прашыпеў, нібы змяя.
І голас быў (адзін, вядома):
– І цешча бачыла мая.
Але яна не тут, а дома…

## СТОП-КАДР



У дзеньВадохрышча на Камсамольскім возеры ў Мінску.

people.onliner.by

## МАЛАЯ РОДИНА

# Нужен мост!

Более двух лет назад я ушел в отставку с должности первого заместителя главы администрации Партизанского района г.Минска. Заимев больше свободного времени, решил серьезно заняться возрождением былой славы родной деревни Альпень, которая находится в Столинском районе Брестской области. У нее, замечу, древняя история. Пережив много войн, она сохранила крестьянский уклад жизни, самобытные традиции. Помню, в послевоенное время в деревне был целый промышленный узел: кирпичный завод, льносушилка и льнопереработка, мельница, маслобойня. Быстро развивалось сельскохозяйственное производство. Имелось несколько магазинов, действовали православная церковь, униатская каплица, синагога.

Но это в прошлом. В настоящее время, когда я приезжаю в Альпень, душа разрывается от того, что вижу. От кирпичного завода осталась одна труба, которая возвышается среди зарастающей лозой и сорняками территории. Баня уже около 30 лет не работает, имеется много полуразрушенных домов, сельскохозяйственный двор практически в запустении, ранее были снесены сенажные башни и другие строения.

Есть проблема с трудоустройством людей. Многие мои земляки вынуждены в поисках лучшей доли уезжать из родных мест.

Вернуть деревне былую славу – моя мечта. И для ее реализации я уже кое-что сделал. Поскольку прообразом героев комедии «Пинская шляхта» Дунина-Марцинкевича явились жители Альпени (более 150 лет назад писатель побывал в нашей деревне), то по моей инициативе открыт музей, отмечен юбилей появления на свет гениального произведения. Направлено письмо в райисполком с просьбой о согласовании места размещения памятного знака в честь наших предков.

Вместе с тем мои попытки привлечь потенциальных инвесторов из Минска для осуществления ряда проектов неизбежно наталкиваются на проблему транспортного сообщения с моей родной деревней. Можно сказать, это же касается всей северо-восточной части Столинского района.

Чтобы взять курс на минское направление, нужно добраться до Микашевичей. Расстояние от деревни Семигостичи, которая находится между Давид-Городком и Ольшанами и недалеко от Альпени, всего 14,3 километра. Но ездить приходится не по прямой дороге, а через Туров и Житковичи. А это лишние 73 километра.

Вся беда в том, что по короткому пути нет движения транспорта из-за того, что два берега реки Припять в этой местности не соединены мостом. Открытие прямой дороги дало бы большой экономический эффект для Беларуси. Наш полесский регион широко известен своими огуречниками, теми, кто занимается выращиванием цветочных семян. Еще на дворе весна, а из тех же Ольшан потоком идут на Минск, Москву, Санкт-Петербург машины, груженные овощами. Насколько быстрее они попадали бы к потребителям, будь мост через Припять в районе деревни Семигостичи!

Для реализации этого проекта, я считаю, нужно привлечь как государственные средства, так и частные. И здесь решающее слово – за республиканскими органами.

**Петр Евгеньевич ШПАКОВСКИЙ, уроженец деревни Альпень Столинского района.**

## РЭЗАНАНС

# На мяжы з цемрашальствам

З захапленнем і не без хвалявання прачытаў нядаўна ў "Народнай Волі" сто радкоў Міхася Скоблы пад назвай "З якой печы ўпалі Высоцкая і Марзалюк?". Гэта публікацыя закранула надзвычай балючую праблему – гаворка ідзе пра чарговую хвалю шальмавання нашага нацыянальнага героя Кастуся Каліноўскага, прытым ужо на дзяржаўным узроўні, бо, на вялікі жаль, тут задзейнічана, як вынікае з фактаў, Міністэрства адукацыі. Непрыемна здзіўляе тое, што ў новых падручніках для восьмых класаў скажаецца сапраўдная роля Кастуся Каліноўскага, самаахвярнага барацьбіта за свабоду Беларусі, і тое, што Л.Высоцкая (з вышэйназванага міністэрства) залічыла яго ў "польскія мяцежнікі", і нарэшце тое, што гісторык-дэпутат І.Марзалюк на старонках "Настаўніцкай газеты", як піша М.Скобла, выкрасліў паўстанне 1863 года з аналаў нацыянальнай гісторыі. Прыведзеныя факты засмучаюць і абураюць: няўжо ў XXI стагоддзі ў суверэннай Рэспубліцы Беларусь людзі з вышэйшай адукацыяй, якія займаюць даволі прэстыжныя пасады, могуць разважаць не толькі лёгкадумна, а і на мяжы з цемрашальствам?! Калі ж у іх не развіта самастойнае мысленне, то пад чыім такім моцным уплывам знаходзяцца? Магчыма, хочацца дагадзіць якім-небудзь уплывовым палітыкам, недальнабачным начальнікам, кіраўнікам? Але няшчырая пазіцыя, свядомая хлусня яшчэ больш брыдкая, гнюсная, чым уласная інтэлектуальная і духоўная слепата і глухата.

***

Што Кастусь Каліноўскі змагаўся найперш за волю Беларусі і за яе ахвяраваў сваім маладым жыццём (быў пакараны смерцю на дваццаць шостым годзе жыцця), – гэта шырока вядомы факт. І газетная калонка Міхася Скоблы праўдзівая, аргументаваная. Аўтар прыводзіць



гістарычныя факты. Сапраўды, на адных толькі беларускіх землях дзейнічала каля 220 паўстанцкіх атрадаў (68.000 касінераў – мясцовых людзей), якія пераважна з косамі і віламі ў руках нішчыў рэгулярныя расійскія войскі ў шэрагу рэгіёнаў нашай акупаванай краіны. Гуртаваць раз'яднаныя сілы і накіроўваць іх супраць царскіх войскаў умеў выдатны кіраўнік паўстання Кастусь Каліноўскі, таленавіты публіцыст, аўтар мужных і неўміручых сямі нумароў "Мужыцкай праўды", а пазней і "Лістоў з-пад шыбеніцы", у якіх на роднай беларускай мове ён пранікнёна і пераканаўча звяртаўся да паднявольнага люду. Асуджаны на смерць, патрыёт нашай зямлі занатаваў: *"Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа, раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, – но не жаль загінуць за тваю праўду"*. Яму ж, свайму народу, людзям працы, адрасаваў і развітальныя зычлівыя словы: *"Жыві здаровы, мужыцкі народзе, // Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе"*. А які крылаты пароль даў ён паўстанцам! Яго так і хочацца паўтарацыь: *"Каго любіш?" – "Люблю Беларусь!" – "Дык узаемна!"*

***

Вядома, што паўстанні беларусаў супраць няволі ворагі беларушчыны называлі бунтамі, а нашых нацыянальных герояў – бандытамі, як вядома і тое, што захопнікі жорстка распраўляліся з барацьбітамі супраць прыгнёту. Яшчэ ў 2008 годзе я прачытаў у Генрыха Далідовіча пра Мураўёва-вешальніка, "усмирителя" паўстанняў 1830–1831, 1863–1864 гадоў, аўтара праектаў па русіфікацыі Беларусі. Мне даспадобы, як выдатны празаік называе ката дзікаярасным натхніцелем знішчэння беларускай мовы і культуры, нашай гістарычнай памяці. Цытую аўтара: *"Асабіста ён загадвае за ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў многія бунтоўныя беларускія вёскі знішчыць артылерыяй і агнём, 128 маладых і светлых розумам, шчырых сэрцам людзей пакараць смерцю, 12.483 – саслаць у Сібір на катаргу... узвысіць праваслаўе ("что недоделал штык, то должен доделать поп")"*. У Вільні яму быў узведзены грандыёзны помнік, і віленская моладзь па-свойму помсціла вешальніку: вымазвала помнік воўчым тлушчам, таму ўначы туды збягаліся сабакі і ярасна абрэхвалі пастамент…

***

Да подзвігу Каліноўскага, да самога імя героя неабыякавыя нашчадкі звяртаюцца як да святыні. *"У вяках нашай нацыянальнай славы ўзвышаецца Кастусь Каліноўскі"*, – гэтыя словы належаць класіку Кузьму Чорнаму. *"Кастусь Каліноўскі і сёння здольны аб'яднаць свой народ. Ён застаецца там, дзе беларусы адваёўваюць сваё права на Зямлю і Волю, на вартае цывілізаванага грамадства жыццё"*, – такую думку выказаў наш сучаснік, знакаміты пісьменнік Віктар Карамазаў.

Расце, увесь час папаўняецца Каліноўскіяна. Пашчыравалі паэты розных пакаленняў. Вершы, балады, маналогі, паэмы – яшчэ няпоўны пералік жанраў, у якіх апяваецца незабыўны Змагар. Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Генадзь Бураўкін ды іншыя паэты стварылі пра яго паэмы, а Уладзімір Караткевіч – трагедыю "Кастусь Каліноўскі: Смерць і неўміручасць", апроч праніклівага верша "Нявесце Каліноўскага". Неаднаразова калектыўныя зборнікі твораў, прысвечаных народнаму герою, выдаваў руплівы навукоўца Язэп Янушкевіч. У 2014 годзе выйшла ў свет ёмістая кніга пра Каліноўскага і касінераў Свабоды "Я адзавуся!" (укладанне С.С.Панізьніка, прадмова Г.В.Кісялёва). Каліноўскіяна, відаць, доўга яшчэ не замкнецца ў сваіх межах, бо вобраз адважнага сына Беларусі, для якога свабода народа была даражэйшая за ўласнае жыццё, хвалюе і натхняе новыя і новыя таленты. Пра гэта падумалася, калі прачытаў у кнізе Міхася Скоблы "Саркафагі страху" (2016) яго палымяны твор "Праўда з-пад шыбеніцы".

Я не гісторык, але геराічныя і драматычныя старонкі гісторыі Бацькаўшчыны засвойваю і нярэдка паэтызую мужнасць герояў, што засведчыла, напрыклад, кніжка "Замова ад рабства" (2017), дзе ёсць такі цыкл вершаў: "Непісімістычная трагедыя", "Роздум над лёсам Кастуся Каліноўскага", "Пятлю здымаючы з паўстання", "Праўда Кастуся Каліноўскага", "Мроя пра Кастуся-героя", "Трагічны лёс паўстання Каліноўскага".

А зараз падумалася пра тое, ці пацікавіліся хоць адным з названых мною выданняў, хоць бы з асобнымі творамі майстроў мастацкага слова пра Каліноўскага Ігар Марзалюк і Людміла Высоцкая, ці ўдумліва прачыталі. Напэўна, не, інакш бы яны не трацілі шмат пораху на свае пустыя стрэлы…

**Васіль ЖУКОВІЧ, пісьменнік.**

## ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Прывезлі падрапаныя вокны

*Паставілі ў кватэры шклопакеты, але, як гэта звычайна здараецца, пасля ўстаноўкі ўважліва вокны не праверылі. Тым больш што закончылі працу майстры ўжо вечарам. А вось на наступны дзень, пры дзённым святле, заўважылі на шкле шмат сур'ёзных драпін. Як далей дзейнічаць?*

**Віктар АЛЯКСЕЕНКА, г.Лагойск.**

– Можаце заявіць прэтэнзію па якасці работ. Звярніцеся ў фірму, у якой заказвалі шклопакеты, вам павінны выправіць недахопы – замяніць шкло на якаснае.

### Памыляюцца выпадкова?

*Прачытала ў рэкламным буклеце пра зніжкі на тавар у магазіне. Набыла неабходную рэч, але, калі ўбачыла чэк, то аказалася, што тавар мне прадалі без зніжкі. Праўда, затым прадавец выбачылася, розніцу ў цане вярнулі, але такая сітуацыя ў гэтым магазіне не першы раз. Што зрабіць, каб больш такое не паўтаралася? Бо не кожны чалавек будзе правяраць чэк пасля кожнай пакупкі…*

**Галіна ПАЛЬЧЭЎСКАЯ, Магілёў.**

– Можаце патрабаваць кнігу заўваг і прапаноў, маеце права напісаць прэтэнзію. Калі магазін робіць гэта наўмысна, то пасля вашай скаргі такое жаданне ў іх, мяркую, знікне.

### Ці купляць тавар без пячаткі ў гарантыйным талоне?

*У інтэрнэт-магазіне набыла фен для валасоў, кур'ер прывёз тавар, але заявіў, што гарантыйны талон будзе без пячаткі. Маўляў, забыў яе ў офісе. Што рабіць у такой сітуацыі?*

**Аксана БЯЛЬКЕВІЧ, г.Маладзечна.**

– Без пячаткі не варта купляць тавар, бо затым, калі з'явяцца праблемы з тым жа фенам, праблематычна будзе яго вярнуць назад. Пячатка дае магчымасць хуткай замены тавару і абслугоўвання ў сэрвісным цэнтры.

### Зламалася мікрахвалевая печка

*Падкажыце, куды можна звярнуцца, калі зламалася мікрахвалевая печка, а гарантыя на яе ўжо закончылася?*

**Аляксандр ПІНЧУК, г.Добруш.**

– *Адрамантаваць мікрахвалёўку можна ў любой рамонтнай майстэрні альбо сэрвісным цэнтры. У дакументах, якія прыкладаліся да тавару, павінны быць іх адрасы.*

### Будаўнікі не да канца выканалі работы

*На падлозе ўкладвалі ламінат, будаўнікоў знайшлі ў фірме, якую параілі знаёмыя. Аднак, відаць, нам з работнікамі не пашанцавала. Падлогу яны зрабілі, а вось плінтусы пакінулі "на потым". У выніку грошы авансам атрымалі, а закончыць работу не спяшаюцца. Што рабіць?*

**Валерый ДРАЗДОЎ, Гродна.**

– Найперш у вуснай форме звярніцеся да кіраўніцтва фірмы, патлумачце сітуацыю. У выпадку, калі справа не зрушыцца, напішыце пісьмовую прэтэнзію. Калі і гэта не дапаможа, можаце звярнуцца ў Таварыства абароны правоў спажыўцоў, юрысты вам дапамогуць скласці судовы іск з нагоды невыканання дамовы.

### Купіў неэканамічную батарэю

*У мяне, напэўна, праблема, з якой сутыкаюцца многія пры набыцці мабільнага тэлефона. Справа ў тым, што апарат практычна новы (усяго паўгода адпрацаваў), а батарэя да яго ўжо не трымае зарад. Ці можна вярнуць альбо абмяняць тэлефон?*

**Сяргей КУПЦЭВІЧ, Валожынскі раён.**

– Спачатку спецыялісты павінны зрабіць экспертнае заключэнне, а ўжо затым можаце звяртацца да прадаўца, калі батарэя і на самай справе з вытворчым недахопам.

### Абмяняць вопратку

*Што параіце зрабіць, калі ў інтэрнэт-магазіне заказвала сукенку аднаго памеру, а даслалі зусім іншага?*

**Вольга ГАЛУЗА, Мінск.**

– Тавар можна вярнуць на працягу 14 дзён.

### Не дамовіліся…

*У дасудовым парадку не ўдалося вырашыць канфліктную сітуацыю з прадаўцом. Якія мае далейшыя дзеянні?*

**Аляксандр СЯЛІЦКІ, г.Орша.**

– Калі пытанне спрэчнае, то можаце звярнуцца да юрыстаў, якія дапамогуць практычнымі парадамі. А далей суд будзе вырашаць, хто вінаваты.

## ПОИСК

# Капитана Ратипова похоронили в Бобровичах…

В деревне Бобровичи Ивацевичского района на местном кладбище похоронен капитан Советской Армии. Он застрелен местным жителем, был раздет донага. Гроб дал кто-то из местных. Бабушка моего покойного мужа сняла с себя фартук и прикрыла его тело. Это произошло в первый месяц войны. Моя мама (ей 91 год) помнит эти события. За могилкой, по возможности, ухаживаю я. Живу в городе Ивацевичи. Но ежегодно в день посещения кладбища на Пасху кладем цветы и я, по старинному деревенскому обычаю, вешаю на крест фартушок. Кто-то из жителей деревни поставил крест. Говорят, что капитан был летчик.

Мой брат Иван, будучи еще школьником, писал в «Пионерскую правду», чтобы нашлись родственники. Но увы! Никто их не искал. Фамилия капитана Ратипов.

Вдруг кто-то ищет, где похоронен близкий человек, и через газету узнает…

**Нина ГОРБАЧ.**

*г.Ивацевичи.*

## ВНИМАНИЕ!

### Считать недействительным

Свидетельство государственной регистрации ИП Карпук Е.Н. УНП 190202491 в связи с его утерей.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 СТУДЗЕНЯ 2019 г.

ОТОВСЮДУ

# В Израиле открыли новый международный аэропорт

*«Ramon» должен привлечь новых туристов к Красному морю.*



*Об этом пишет международное информационное агентство AP.*

Первоначально аэропорт будет обслуживать только внутренние рейсы, которые выполняют израильские перевозчики Arkia и Israir. Дата начала международных перелетов пока не известна.

Новый аэропорт рассчитан на пассажиропоток в 2 млн человек ежегодно. В дальнейшем его планируется расширить, чтобы он мог обслужить до 4,2 млн пассажиров.

Аэропорт оборудован взлетной полосой длиной 3600 метров, а также местами для стоянки девяти самолетов.

«Ramon» находится в 18 км от курорта Эйлат и иорданского порта в Акабе.

ТЕНДЕНЦИИ

# За 2018 год миллиардеры разбогатели, а бедные обеднели

*Самые богатые люди планеты в прошедшем году разбогатели в среднем на 12 процентов. Бедное население понесло потери в размере 11 процентов.*

Миллиардеры по всему миру за прошедший год существенно увеличили свои состояния за счет более бедных слоев населения. Как следует из доклада международного объединения организаций по борьбе с бедностью Oxfam, который был опубликован в понедельник 21 января, активы миллиардеров в 2018 году в общей сложности выросли на 12 процентов, в среднем на 2,2 миллиарда евро в день. Этому способствовали в том числе налоговые льготы для концернов и частных лиц. Более бедная часть мирового населения понесла потери в размере 11 процентов.

За последние десять лет число миллиардеров по всему миру выросло вдвое. Одновременно с этим все меньше людей могут выбраться из состояния крайней нищеты. Лицами, живущими за чертой бедности, считаются те, кто в день располагает суммой меньше 1,7 евро. Несмотря на то, что таких людей с 1990-го по 2010 год стало вдвое меньше, в 2015 году в крайней нищете по всему миру жили около 736 миллионов человек. Наиболее уязвимыми называются в документе женщины и девочки. В среднем в мире мужчинам принадлежит на 50 процентов больше активов, чем женщинам.

ЭВРИКА!

# Любые нагрузки в старости укрепляют память

*Это не обязательно должна быть зарядка*

Любые занятия, связанные с движением, будь то физические упражнения или работа по дому, помогают людям сохранить хорошую память и ясность мысли в пожилом возрасте, заявили ученые под руководством Арона Бачмана из Американской академии неврологии.

Специалисты пригласили к участию в исследовании 454 пожилых человека, среди которых 191 страдал от той или иной формы деменции, а остальные не сталкивались с такой проблемой. На протяжении 20 лет участники проходили тесты на физическую силу, память и когнитивные способности, а также носили фитнес-трекер, при помощи которого ученые могли отследить, насколько активный образ жизни ведут участники исследования.

Как выяснилось, люди, часто проявлявшие физическую активность любого рода, значительно реже и в значительно меньшей степени страдали от слабоумия, чем те, кто вел малоподвижный образ жизни, причем эта тенденция распространялась в том числе и на людей, так или иначе предрасположенных к деменции. Также специалисты обнаружили, что люди, с возрастом сохраняющие хорошие моторные навыки и координацию, также чаще могут похвастаться хорошей памятью и когнитивными способностями.

Полученные результаты были представлены в научном издании Neurology.

# Кликни и молись

*Ватикан запустил приложение для смартфонов и ПК*



*Платформа работает на шести языках: английском, немецком, португальском, итальянском, французском и испанском.*

20 января Папа Римский Франциск, выступая на воскресной проповеди, объявил о запуске платформы для молитв «Click To Pray» («Кликни и молись»).

«Призываю вас, особенно молодежь, скачать приложение и продолжать молиться со мной за мир и благополучие», – призвал Папа Римский Франциск.

Ресурс состоит из трех разделов: «Молись с Папой», «Молись каждый день», «Молись в сети». С помощью последнего пользователи могут обмениваться молитвами друг с другом.

# Искусство – даром

*Музеи и концертные залы США открыли двери для безработных чиновников.*



Уже четвертую неделю из-за приостановки работы правительства США служащие многих федеральных служб находятся в неоплачиваемом отпуске.

Во время временной приостановки работы правительства США тысячи федеральных чиновников оказались в неоплачиваемом отпуске. И хотя накормить этих людей музеи и концертные залы не могут, они готовы дать им пищу для души и ума совершенно бесплатно.

Конгресс США уже четвертую неделю не может одобрить финансирование госаппарата. И многие службы оказались без работы. В истории Америки это самая длительная приостановка работы федерального правительства.

Музеи 27 штатов и 19 оркестров – от Метрополитен-опера до Air & Space Museum в Сан-Диего – предложили служащим, которые находятся в неоплачиваемом отпуске почти месяц, бесплатно посетить выставки и концерты.

«Музыка обладает способностью вдохновлять, снимать стресс и делать трудности несущественными», – говорит Джозеф Джунта, руководитель симфонического оркестра Де-Мойна.

Однако всемирно известные культурные заведения – в числе которых Смитсоновские музеи, зоопарки и галереи – пока не спешат открыть двери для безработных чиновников.

*По материалам Reuter.*

# Саудовским женщинам разрешили самим решать, как рожать

*Раньше все решения принимал мужчина – муж, отец или брат.*

В Саудовской Аравии женщинам официально разрешили самим выбирать способ деторождения: естественные роды или кесарево сечение. Теперь саудовским женщинам можно без подписи опекуна узнавать о том, как протекает беременность и когда ребенок появится на свет. Им также разрешили самостоятельно решать, будут ли родственники присутствовать при родах.

Это уже вторая реформа за 2019 год – с начала января суды Саудовской Аравии обязали оповещать женщин о разводе по СМС. Раньше мужчины могли развестись с женой и даже не сообщить ей об этом.

Саудовским женщинам уже разрешили голосовать, посещать футбольные матчи и водить машину (но с одобрения мужчины-опекуна).

В то же время, несмотря на реформы, проводимые наследным принцем Мохаммедом бин Салманом, женщины в Саудовской Аравии по-прежнему лишены многих прав: они не могут самостоятельно получать паспорт, выезжать за границу, открывать банковские счета.

Как сообщал «Вокруг Света. Украина», в Саудовской Аравии женщина впервые стала ведущей государственных новостей.

*По материалам Knife.media.*

НА СВЯЗИ – КИЕВ

# Томос получен. Нанесет ли империя ответный удар?

Для жителей постсоветского пространства 6 января 2019 года произошло достаточно значимое событие, последствия которого пока в полной мере не осознаны широкими массами, но уже оценены экспертами. Украина на 28-м году своей независимости наконец-то получила независимую от Российской Федерации признанную каноническую автокефальную православную церковь.

В чем значимость для постсоветского пространства получения Томоса Православной церковью Украины? Фактически забит очередной и очень важный гвоздь в крышку гроба, в котором будут похоронены имперские амбиции Российской Федерации. На протяжении последних 30 лет медленно происходило ослабление и демонтаж имперских инфраструктурных институтов. Сначала были ликвидированы наднациональные институты, охватывающие страны социалистического лагеря: СЭВ и военный союз «Варшавский договор», что привело к снижению влияния коммунистической империи и повлекло ее к развалу. Построенное на обломках СССР новообразование СНГ практически оказалось нежизнеспособным. Интеграционные потуги метрополии, призванные сплотить империю на базе создаваемых новых имперских институций (Евразийский союз, Таможенный союз, ОДКБ…), привели к тому, что влияние метрополии на отколовшиеся части империи еще более снизилось. Более того, потерпела крах попытка силой принудить Украину вернуться в лоно империи, а без нее восстановить былое величие точно не получится.

На фоне ослабления светских институтов до 2019 года оставался практически нетронутым последний элемент достаточно влиятельной имперской структуры – Русская православная церковь. Фактически эта организация на протяжении последних лет пыталась подмять под себя весь православный мир, ставя под сомнение первенство Вселенского патриархата и сама для себя определяя территорию, где она может влиять и управлять православной церковной инфраструктурой.

Сейчас же по ее амбициям нанесен существенный удар. Начался процесс, который неизбежно превратит имперскую РПЦ в обычную национальную церковь, ограниченную рамками своей страны. Фактически от полного влияния РПЦ отторгнута значительная территория – Украина, где на сегодняшний день доминирует православная религия. Конечно, возможности РПЦ в Украине еще некоторое время будут достаточно значительными. Под ее началом пока остается порядка 12.000 приходов, что фактически в два раза превышает количество приходов, находящихся под юрисдикцией Священной Церкви Украины.

Но постепенно ситуация будет меняться, и, конечно же, не в пользу РПЦ. Только в период между 15 декабря (объединительный собор православных церквей Украины) и 6 января (вручение Томоса об автокефалии) о выходе из-под юрисдикции РПЦ объявило около 60 приходов. На сегодняшний день их количество увеличилось – уже изъявили желание перейти 117 приходов.

Документ об автокефалии получен, юридические формальности соблюдены, сейчас начинается формирование иерархической структуры, связанной с процессом объединения епархий и приходов трех церквей (УПЦ Московского патриархата, УПЦ Киевского патриархата, УАПЦ). Отшлифуется юридический механизм перехода из-под одной юрисдикции под другую, и количество приходов, влившихся в поместную церковь Украины, значительно увеличится.

Процесс становления Священной Церкви Украины вызывает резкое неприятие как руководства РПЦ, так и светских властей Российской Федерации. И если последние пугают Украину войной, которая и без того уже фактически идет пять лет, то первые придумывают разного рода страшилки, чтобы повлиять на решения прихожан о переходе в поместную церковь.

Чем пугают московские попы? Набор стандартный, но несколько подкорректированный с учетом новых обстоятельств.

**Во-первых**, как всегда, обвинение в расколе. Если раньше раскольниками были УПЦ КП и УАПЦ, то теперь в раскольники записан Вселенский патриархат, который, по сути, создал условия объединения трех разных православных церквей, функционирующих на территории Украины. В чем раскол? В том, что объединенная церковь в собственной стране становится независимой от иностранной – РПЦ – и равной среди остальных существующих в мире православных церквей? Напомню читателям о том, что РПЦ 15 октября 2018 года приняла решение в одностороннем порядке разорвать каноническое общение с Вселенским патриархатом. Так кто на самом деле раскольники? Кстати, на проповедях Вселенский патриарх, православные иерархи других стран, в том числе и руководитель Священной Церкви Украины митрополит Епифаний, как это предусматривает диптих, помянули предстоятеля РПЦ Кирилла, чего не скажешь о российских церковных иерархах.

**Во-вторых**, руководство РПЦ всячески принижает уровень поместной церкви Украины, приводя разного рода высосанные из пальца аргументы, порой достаточно абсурдные, например:

- Митрополит УПЦ МП автоматически входит в Синод РПЦ, а нынешний глава украинской церкви нет. Только вот зачем украинскому митрополиту, возглавляющему независимую церковь, быть членом синода иностранной церкви, когда он по своему статусу равен предстоятелю РПЦ? Священная церковь Украины не является структурным подразделением РПЦ.
- Территория деятельности украинской поместной церкви ограничена территорией Украины и не вправе создавать епархии и приходы в других государствах. Но таким правом не обладали ни УПЦ КП, ни УАПЦ, ни УПЦ МП. Более того, таким правом не обладают и другие православные автокефальные церкви мира.
- Священная Церковь Украины не будет независимой, она ограничена положениями Томоса, обязана подчинятся Вселенскому Патриарху; при разрешении спорных ситуаций внутри украинской церкви, для решения иных вопросов канонического, догматического и церковного характера надо обращаться к Вселенскому Патриарху. Украинская поместная церковь будет получать миро от Константинополя и обязана участвовать в совещаниях, проводимых под эгидой Фанара, от чего освобождена УПЦ МП. Но при этом не стоит забывать, что прежде всего УПЦ МП – это заграничный филиал РПЦ, поэтому он не может взаимодействовать напрямую с Вселенским Патриархатом. Все остальные автокефальные православные церкви мира, кроме РПЦ, так же ограничены рамками Томоса, признают первенство Вселенского патриархата и его права высшей инстанции. Все перечисленное является обычными стандартными правилами и процедурами в отношениях православных церквей с Константинополем.
- Томос закрепляет права Константинополя на экзархат и ставропигии в Украине. Патриархат в Украине ныне упразднен, сама украинская церковь не самостоятельна, а ее автокефальность ограничена статусом митрополии. На самом деле Томос подчеркивает самостоятельность Священной Церкви Украины во внутренних организационных вопросах и не обязывает по каждому поводу спрашивать разрешения Вселенского Патриарха. Ни для кого не секрет, что Украина – страна незрелой демократии. Государственные институты достаточно слабы и коррумпированы. Такого рода проблемы сопряжены в том числе и с деятельностью церковных институтов, независимо от того, какому патриархату они подчинялись – московскому или киевскому. Как только поместная церковь в Украине окрепнет, наработает авторитет, покажет зрелость своих позиций, толерантность к конкурентам, устойчивость своих структур, вберет в свое лоно подавляющие количество приходов, ее статус обязательно поднимут до патриаршего. Слишком много поставлено на карту, и нельзя эпохальное событие превратить в профанацию, которая может развалить начатое дело.

**В-третьих**, руководство РПЦ запугивает своих прихожан откровенной неправдой. Якобы при переходе под юрисдикцию поместной церкви Украины прихожанам УПЦ Московского патриархата, всем без исключения, придется по-новому проходить процедуры церковных таинств: крещения, венчания и т.п. На самом деле это абсурд. Ранее московская церковь пугала неканоничностью других украинских церквей и считала их таинства недействительными, чем затрудняла переход прихожан в другую юрисдикцию. Сейчас пугают обратным, но в отличие от РПЦ Священная Церковь Украины признает каноничность таинств, совершенных УПЦ МП, и такого рода препон для прихожан не создает.

В итоге, сравнивая Устав РПЦ, которым руководствовалась каноничная УПЦ МП в Украине, с полученным Синодальным Томосом для Священной Церкви Украины, мы обнаружим, что поместная церковь в Украине полностью вышла из-под контроля и влияния РПЦ, существенно расширила объем своих прав и свобод, получила все возможности для самостоятельного существования на уровне равных между собой православных церквей мира, став при этом одной из них, чего, безусловно, не было до этого.

Получение Томоса не означает, что уже пора почивать на лаврах. Предстоит достаточно долгий, трудный путь, требующий терпения, сопряженный с определенными рисками. Империя рук не опустила и сдаваться просто так не собирается.

РПЦ будет продолжать вставлять палки в колеса, мешая процессу единения, дезинформируя, манипулируя, подкупая, запугивая, шантажируя прихожан и церковных иерархов, стремящихся уйти в поместную украинскую церковь.

Не секрет, что на территории Украины достаточно разного рода коллаборационистов, которые явно и исподтишка будут препятствовать идущим процессам. Спецслужбы России, используя опыт КГБ СССР, продолжают работать с радикальными группировками во всем мире, как с правыми, так и с левыми. Украина в этом плане не исключение. Угрозы осуществления радикальных действий и разного рода провокаций по отношению к прихожанам и священникам Московского патриархата достаточно высоки.

Помимо внешнего врага есть и внутренний. Кроме существующих рисков, инспирированных извне страны, существует вероятность, что непосредственно представители украинской власти, вступая в коррупционный сговор или используя дешевый и примитивный пиар способны дискредитировать хорошее дело, поставив личные интересы выше государственных. Даже в вопросах национальной безопасности. С одной стороны, Вселенский Патриарх Варфоломей прекрасно осведомлен о существующих рисках, поэтому экзархами и главой киевской ставропигии назначены его доверенные лица, уроженцы Украины, глубоко знающие местную действительность. А с другой стороны, осуществляют пристальное наблюдение представители светской власти западных партнеров. Процесс не пущен на самотек, а потому имеет все шансы достичь успеха.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
***собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.***

УРАЖАННІ

# Калі ты кат, дык назаўсёды

*У Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы адбылася прэм’ера спектакля “Вешальнікі” паводле п’есы Марціна Макдонаха. Тэма – смяротнае пакаранне.*

Жалезнымі кратамі, за якімі мураваная сцяна турэмнай камеры смяротніка, сустракае гледача вялікая сцэна Купалаўскага тэатра. Са злавесным грукатам дзверы адчыняцца, і ў камеру ўвойдуць кат, яго памочнік, камендант турмы і доктар. Вязень будзе вырывацца, заклінаць, што ён невінаваты, але атрымае дубінкай па спіне, на галаву яму надзенуць мех. А лепшы на той час вешальнік Англіі апусціць рычаг. У сапраўднай пятлі цела завісне над сцэнай, а затым знікне пад ёй. У пратаколе пакарання занатуюць, што павешаны сваёй віны не прызнаў.

Так натуралістычна, жорстка, бязлітасна да гледача пачынае рэжысёр **Віталь Краўчанка** свой дэбютны на галоўнай драматычнай сцэне краіны спектакль “Вешальнікі”. Гэты пралог напісаны выбітным брытанска-ірландскім драматургам Марцінам Макдонахам, якога нават называюць Шэкспірам нашых дзён, на падставе рэальнай падзеі 1963 года, калі быў павешаны паводле сумнеўных доказаў згвалтавання і забойства Джэймс Хэнраці (у спектаклі гэта Хэнэсі, ролю якога выконвае **Міхаіл Світа**). Павешанне выклікала гнеў брытанцаў. Распачаўся рух супраць смяротных пакаранняў, што і прывяло да іх адмены ў 1965 годзе.

Менавіта ў той самы гістарычны дзень і адбываюцца падзеі п’есы Макдонаха і спектакля Краўчанкі. Далей купалаўская сцэна будзе ўяўляць сабой паб у правінцыйным гарадку на поўначы Англіі, які трымае той самы вешальнік. (У Брытаніі нярэдка катыпрафесіяналы выязджалі толькі на павешанне, а ў цывільным жыцці мелі пабы. Вешальнікі да таго ж не былі патаемнымі, людзі ведалі іх і па імёнах, і ў твар). Мастак **Барыс Герлаван** выбудоўвае інтэр’ер паба: барная стойка з апаратам для налівання піва, у шафе-вітрыне – безліч бутэлек (як па мне, дык аж занадта для невялікага паба), столікі, табурэты, крэслы. Тут жа абсталяваны і невялічкі музей прылад для павешанняў, пасярод якіх дартс. Але найстарэйшы беларускі сцэнограф, пік творчасці якога прыпаў на трэцюю чвэрць мінулага стагоддзя, натуральна, не мог адмовіцца і ад метафарычнасці, якая ўладарыла тады ў сцэнаграфіі і рэжысуры. Таму і ў гэтым спектаклі знайшлося месца для сімвалаў, метафар: жырандолі вісяць на такіх самых вяроўках, што ўжываюцца пры павешаннях, брытанскі сцяг пад каласнікамі завісае на пятлі як сімвал дзяржавы, у руках правасуддзя якой жыцці людзей. А пасярэдзіне сцэны – круглая пляцоўка, якая нагадвае арэну цырка, на якой, ужо паводле волі рэжысёра, часцей, чым за барнай стойкай, як цыркач-клоўн будзе знаходзіцца галоўны герой спектакля – вешальнік Гары Уэйд.

На момант адмены пакарання ён – першы кат краіны, а ў новай гісторыі – вешальнік нумар два, бо па колькасці павешаных саступае толькі ўжо вешальніку-пенсіянеру Альберту П’ерпойнту. Уэйд – мясцовая знакамітасць, дзеля якой, а не з прычыны добрага піва, збіраюцца тут мясцовыя выпівакі. Прыходзяць як у цырк, і прадстаўленне гэтым разам будзе яшчэ тое: на іх вачах адбудзецца яшчэ адно павешанне-самасуд. Гэтыя разявакі ў спектаклі ёсць увасабленне грамадства, пры абыякавасці і маўклівасці якога да пэўнага часу і існавала смяротнае пакаранне.

Віталь Краўчанка выбудоўвае спектакль вельмі падрабязна, уважліва да кожнай дэталі, патрабуючы натуральнасці кантактавання паміж персанажамі. Ён ні на крок не збочвае ад складанага тэксту драматурга. Гэта – прынцыповы выбар рэжысёрам псіхалагічнага, акцёрскага тэатра ў яго класічнай форме. На сцэне разам прысутнічаюць аж да дзесяці артыстаў, якія шчыльна, з недапушчальным ні на секунду збоем удзельнічаюць у сюжэце. Такія маштабныя спектаклі – рэдкасць на сучаснай беларускай сцэне. Такая рэжысура таксама рэдкасць, але яна, што важна, датычная да лепшых традыцый купалаўскай сцэны.

З няспешным развіццём і развязваннем інтрыгі гэтаксама няспешна агаляюцца шматлікія аспекты глабальнай тэмы смяротнага пакарання. Павешанне – гэта забойства ці ўрачыстасць справядлівасці? А як быць з памылкай правасуддзя, калі жыццё шыбеніку ўжо не вернеш? Увогуле – ці мае права дзяржава, ад імя якой чалавека вешаюць, забіраць у чалавека жыццё? Ці спыняе смяротная кара злачынствы? На гэтыя пытанні Англія адказала паўстагоддзя таму. Іншыя еўрапейскія краіны гадамі пазней зразумелі, што смяротнае пакаранне – гэта нічым не апраўданае і бессэнсоўнае дзікунства. А Беларусь аж да сёння на гэтыя пытанні не мае адказу, яна – адзіная краіна ў Еўропе, дзе не толькі расстрэльваюць людзей, але і робяць гэта ў надзвычай сціслыя тэрміны, калі яшчэ немагчыма на ўсе сто працэнтаў быць упэўненымі ў віне асуджанага. Ведаем мы і выпадкі, калі ад імя правасуддзя забівалі невінаватых. А літаральна за тыдзень да прэм’еры “Вешальнікаў” у Беларусі быў вынесены чарговы смяротны прысуд, і зусім верагодна, што яшчэ аднаго чалавека заб’юць стрэлам у патыліцу... Праблемы настолькі празрыстыя і зразумелыя, што рэжысёру і не спатрэбілася штучна пераносіць дзеянне ў Беларусь. Яны і ў англійскім антуражы чытаюцца і ўспрымаюцца беларусамі як свае.

Купалаўцы не навязваюць спектаклем “Вешальнікі” нейкага катэгарычнага погляду на праблему адмены смяротнага пакарання, а проста запрашаюць публіку да роздуму на вельмі важную праблему, якую нам, беларусам, калі хочам жыць у супольнасці з цывілізаваным светам, трэба вырашаць ужо сёння.

Але спектакль – гэта мастацкі твор. Яго ідэйныя пасланні і пытанні публіцы вынікаюць з жыццёвай гісторыі, якую, хай і на падставе рэальных падзей, усё ж прыдумаў аўтар і расказаў тэатр. У Макдонаха жанр п’есы – чорная камедыя з крымінальнай інтрыгай. У рэжысёра Краўчанкі, хоць на афішы таксама пазначаны жанр як чорная камедыя, атрымаўся спектакль не вельмі смешны. Камедыю перамог трылер. Асабліва ў другой дзеі, якая пастаўлена ў традыцыях, безумоўна, падгледжаных у брытанскім кіно. Дзеянне развіваецца напружана, поўніцца загадкавымі сітуацыямі і калізіямі, атмасфера згушчаецца – за сценамі паба ліе дождж, прыход кожнага персанажа апавяшчаюць раскаты грому, шыбы звонку падсвечваюцца злавесна халодным сінім святлом. Глядач аж да самай апошняй сцэны застаецца ў напружаным няведанні і чаканні развязкі. І трымаюць іх у напружанні найперш акцёры.

**Ігар Дзянісаў** цэнтральны вобраз вешальніка Гары Уэйда стварыў вельмі глыбокім, псіхалагічна насычаным, маштабным. Унутраны стан і вонкавая пластыка знаходзяцца ў гармоніі. Артыст малюе свайго героя буйнымі мазкамі. Здаецца, усе магчымыя плюсы і мінусы прыроды чалавека, яго сацыяльнасці раскрывае ён на сцэне. А лейтматыў яго ролі становіцца і лейтматывам, ідэяй спектакля: былых не бывае. Да слова “былых” можна дапасаваць не толькі прафесію вешальніка, а і камуніста, нацыста, фашыста, энкавэдыста, забойцу… Чалавек, які аднойчы зрабіў свой выбар на карысць зла, сумленна служыў і быў шчыра аддадзены сваёй злой справе, з тым і застанецца да канца дзён сваіх, калі не ў дзеяннях, дык у галаве. Ён можа схавацца за словы, знайсці апраўданні, але цалкам іншым ужо не будзе, яму заўсёды не будзе ставаць той злой справы. Гэтая думка гучыць у тэксце, гэтая думка акцэнтуецца і ў вельмі яркай сцэне невыпадкова выпадковага павешаннясамасуду, якое здзяйсняе на сцэне-арэне Гары Уэйд. Яна гучыць ужо як ісціна, калі з’яўляецца яшчэ адзін кат – найвялікшы вешальнік Англіі новага часу Альберт П’ерпойнт (рэальная асоба) у бліскучым выкананні **Аляксандра Падабеда**.

Мінулае не адпусціць. Не адпусціць і бяздумнае, абыякавае, хлуслівае грамадства, якое ва ўсе часы патрабавала хлеба і відовішчаў. У дадзеным спектаклі замест хлеба яно патрабуе піва, а ў сучаснай беларускай рэальнасці – чарку і скварку. Увасабляе ў купалаўскім тэатры такую філасофію жыцця кампашка выпівакаў-разявак у маляўнічым выкананні артыстаў **Алега Гарбуза, Аляксандра Зелянко, Антона Макухі, Ігара Пятрова, Дзмітрыя Есяневіча, Мікалая Кучыца**. Яны таксама ўскосныя вешальнікі.

А што значыць быць жонкай вешальніка, класціся з ім у ложак, ведаючы, што ён толькі што павесіў чалавека? Як цярпець яго дэспатызм, бо работа ката яго не адпускае і дома? На гэтыя пытанні вельмі цікава, кожная па-свойму знаходзячы псіхалагічныя нюансіроўкі, адказваюць выдатныя артысткі **Зоя Белахвосцік** і **Юльяна Міхневіч** у ролі Эліс Уэйд. А ці лёгка быць дачкой ката, якую ён штогадзіну абзывае нудзілай? Кранальна і вельмі драматычна сыгралі ролю Шырлі Уэйд артысткі **Крысціна Дробыш** і **Дзіяна Камінская**.

Цікавы вобраз загадкавага і злавеснага маладога чалавека Пітэра Муні стварыў **Іван Кушнярук**. Ён віртуозна закручвае інтрыгу і зусім не праясняе, дык хто гэты Муні насамрэч ёсць: гвалтаўнік, забойца ці проста прайдзісвет? На такія ж пытанні адносна падобных людзей часам не можа даць адказ і суд, а вырак выносіць…

Увогуле, з майго гледзішча, усе 20 акцёраў, занятых у спектаклі, на сваіх месцах. Я паглядзеў абодва склады выканаўцаў і нават у трох камбінацыях. Мы маем той выпадак, калі нельга сказаць, хто ў першым складзе, а хто ў другім. Усе яны існуюць дакладна, не губляючы сваёй індывідуальнасці. Мне цікавы памочнік вешальніка Сід як **Аляксандра Казелы**, так і **Сяргея Чуба**. Выразны і дакладны таксама **Ігар Сігоў** у ролі П’ерпойнта. Запомніўся і артыст-дэбютант **Павел Паўлюць** у ролі журналіста Дэрэка Клега.

Варта ісці на любы склад акцёраў, і вы атрымаеце асалоду ад іх выканання! Праўда, калі вы любіце сур’ёзны тэатр, а не калаж атракцыёнаў. Трэба ісці і глядзець, каб задумацца пра цану жыцця і смерці.

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

**Фота з архіва Тэатра імя Янкі Купалы.**

Пітэр Муні – Іван Кушнярук.

Камендант турмы – Дзмітрый Тумас, Сід Армфілд – Сяргей Чуб, Гары Уэйд – Ігар Дзянісаў.

СОЛИДАРНОСТЬ

# Известные белоруски написали письма поддержки молодым мамам

*С января во всех минских роддомах молодые мамы получили приятный подарок – коробочку «МамаPro». В ней 16 вещей первой необходимости для мамы и ребенка, в том числе подгузники, пеленки и игрушки. А еще – письма с поздравлениями и привет от звездных мам.*

*«Рождение ребенка – самое волшебное, что с нами случается. С этого момента в жизни женщины появляется человек, который дарит ей абсолютную любовь! Любовь, которая не знает обстоятельств. Любовь, которую не нужно заслуживать...»* – начинает свое письмо трижды мама и известная модель **Екатерина Доманькова**. Она уверена: рождение малыша для каждой мамы – неиссякаемый источник сил и вдохновения, и любовь будет намного больше и яснее усталости.

Вместе с ней новоиспеченных белорусских мамочек захотели поздравить и подбодрить «золотая рыбка» **Александра Герасименя**, телеведущая **Светлана Боровская**, солистка группы NAVI **Ксения Жук** (кстати, она сама совсем недавно стала мамой) и популярные певицы **Лариса Грибалева** и **Искуи Абалян**, также письмо написала и врач акушер-гинеколог, руководитель проекта «МамаPro» **Диана Мардас**. Как рассказала «Народной Воле» медиаменеджер проекта «МамаPro» **Татьяна Машкович**, их письма найдут адресата, а миллионы белорусок смогут прочитать их также и на сайте проекта mamapro.by.

Кроме поздравлений и пожеланий в посланиях – подбадривающие слова, советы и лайфхаки. Ведь каждая известная мама – это в первую очередь такая же женщина, которая также столкнулась с растерянностью, волнениями и переживаниями, связанными с рождением первенца. Например, **Александра Герасименя** рассказала, что первые месяцы жизни малыша – нелегкие, нужно налаживать сон, грудное вскармливание, справляться с коликами и первыми зубками, поэтому пожелала не забывать, что все проблемы, которые порой кажутся нерешаемыми, – всего лишь временные трудности.

Дважды мама **Светлана Боровская** подчеркнула, что такие волнения остаются с мамой на всю жизнь: «*Сколько бы лет ни было Вашему ребенку, 5, 10 или 40, Вы всегда будете волноваться, всегда будете говорить: «Надень шапку и варежки, потому что холодно!» И дети будут ворчать, как ворчат сейчас мои взрослые сыновья, но все равно будут делать так, как Вы сказали, ведь это и есть любовь...*»

Трижды мама **Лариса Грибалева** уверяет: все неприятности и мелкие недочеты уйдут на задний план: «*Что точно останется – это воспоминания про первые минуты малыша, когда его кладут тебе на грудь, и сердце замирает. Точно будете вы помнить и про первую улыбку, адресную, именно Вам подаренную...*» А еще советует обязательно подключать к суете с малышом папу и как можно чаще гулять на свежем воздухе. Делится простыми советами и **Ксения Жук**: «*Наслаждайтесь каждым моментом, ведь дети действительно быстро растут. Вместо телефона или книги просто посмотрите на малыша, запомните любопытство в его глазах, первую улыбку, его детский запах…*» Певица и мама двух дочек **Искуи Абалян** тоже советует как можно больше времени проводить с ребенком, а если возникают проблемы – не бояться помощи специалистов: «*Для меня было открытием, что при грудном вскармливании маме нужно быть настойчивой и примерять на себя расписание ребенка. А для этого нужно проводить как можно больше времени с малышом и быть с ним на одной волне. Чувство уверенности и спокойствия у ребенка даст стабильность в его поведении. Изучайте, спрашивайте и никогда не сдавайтесь!*»

Идея таких писем появилась у команды проекта «МамаPro» не просто так: организаторы акции уверены, что для каждой новоиспеченной мамы не столько важны подарки, сколько забота и поддержка.

– *Много раз прямо в родильном зале я говорила такие важные как для женщины, так и для врача акушера-гинеколога слова: «Поздравляю, Вы стали мамой!» И в своем послании я поблагодарила каждую маму за то, что она прошла этот нелегкий путь*, – отмечает **руководитель проекта «МамаPro», врач акушер-гинеколог и молодая мама Диана Мардас**. – *Пусть каждая мама, прочитав письма, еще раз вспомнит и проживет эти моменты первого прикосновения, первой улыбки и запомнит их навсегда. И пусть каждая женщина почувствует поддержку от тех, кто тоже прошел этот сложный, но волшебный путь встречи с малышом.*

**Алина ВЕТРОВА.**

ЖИЗНЬ ДРУГИХ

# «За смену минимум четыре раза предлагали выйти замуж…»

*Минчанка Наталья УКОЛОВА, которая несколько лет отработала водителем такси, рассказала «Народной Воле» о нюансах этой необычной для женщин профессии.*

Сейчас моя собеседница работает инструктором по теории ПДД и вождению в столичной автошколе «Зебра», но специфику работы в такси знает «от и до». Хотя – обо всем по порядку…

### «Любовь к машине – это в генах»

– В первый раз я села за руль примерно в семилетнем возрасте, как только ноги до педалей стали доставать, – *вспоминает Наталья*. – У папы были «Жигули» второй модели, помню, бабушка брала фонендоскоп, и мы шли «лечить машинку». Слушали ее «сердце» – мотор. Кстати, я до сих пор на слух могу определить, как работает двигатель автомобиля. Как говорится, впитано с молоком матери, а любовь к машине – это в генах.

**– Семейное?**

– У нас вся семья, скажем так, техническая: папа – инженер-конструктор, мама – инженер-химик, брат – инженер-механик.Я с детства за рулем сидела, и сейчас моя младшая 8-летняя дочка уже тоже рулит. Даже автобус водила и, надо сказать, прекрасно входит в повороты на десятиметровой машине. Супруг – тоже водитель такси, только маршрутного.

**– Вы сели за руль в семь лет, а поехали во сколько?**

– Онажды, когда мне было 12 лет, мы попали в критическую ситуацию. Маму отправили за город на сельхозработы по заготовке сена, она поехала на машине и взяла меня с собой. А у мамы аллергия на пыль. Одним словом, случилось то, чего больше всего опасались, – анафилактический шок. Мама потеряла сознание, все вокруг в панике: до Минска 30 километров, «скорую» не вызвать – мобильных-то телефонов тогда не было. Да еще и ключ от машины не могли найти.

И знаете, что я сделала? Как учил папа, взломала дверь, завела машину без ключа, села за руль и привезла маму в Минск в травмпункт на улице Притыцкого. В двенадцать лет! И все у нас тогда закончилось хорошо.

Позже я отучилась в БНТУ на инженерно-педагогическом факультете, работала преподавателем в машиностроительном училище, в системе УПК, преподавала в автошколе теорию и вождение…

### В такси!

**– А в службу такси каким ветром занесло?**

– Понимаете, обучать курсантов вождению – это достаточно нервная работа. В один прекрасный момент я поняла, что нужно сменить обстановку. Но семью-то кормить надо, поэтому и решила работать в ночные смены в такси. Выезжала около 19.00, работала всю ночь, а в 9 утра уже проводила в автошколе занятия в утренней группе. Приходила домой примерно к часу дня, ложилась спать, и вечером – снова в рейс.

**– Сложный график…**

– И график сложный, и сама работа оказалась не сахар. Во-первых, сначала, когда пришла в службу «7788», брать на работу не хотели: мол, женщина, ты хоть педаль тормоза от педали газа отличишь? Спасло то, что показала трудовую книжку, где значилось, что я работала инструктором по вождению.

Машину перевозчик дал китайскую, самую убитую. Электроусилитель не работал, руль был настолько тугой, что руки отваливались. Одним словом, в этой службе я отработала ровно десять дней. Уволилась и перешла в службу «135». Там все-таки клиенты поинтеллигентнее.

**– Сложно было стать водителем такси?**

– Не очень. Прошла курсы, заплатив за них около 30 долларов, и – за работу. Выдали машину. Но там система такая: ты вносишь аванс – за неделю работы на старые деньги 2 миллиона 500 тысяч рублей, соответственно за месяц 10 миллионов. Отработал или не отработал эти деньги – твои проблемы. Бензин – за свой счет. Если сломалась машина, простой тебе тоже никто не оплачивает. То есть довольно жесткие условия.

Но, как говорят, новичкам везет. За первые две ночи работы я «отбила» план, и все остальное время работала уже «на свой карман». Без перерыва. И только когда организм начинал подавать сигналы тревоги, позволяла себе передышку.

### Клиент всегда прав?

– Пьяный клиент для таксиста – это беда, – *продолжает Наталья*. – Однажды мужик вызвал такси на улицу Матусевича, чтобы… в машине выпить. Вот захотелось ему побухать в автомобиле и при этом с кем-то пообщаться! Приземлился на сиденье, бутылку водки открывает… Я, конечно, тогда ему высказала, что думаю. Говорю: что это у вас за неуважение к водителю? Это подворотня или бар? Сидите дома и выпивайте.

Он мне начал рассказывать про свою тяжелую жизнь, на что я ему ответила так: «Это не у вас, а у меня жизнь тяжелая, потому что на трех работах работаю и вынуждена еще алкашей возить». Выгнала его из машины. Он меня назвал ненормальной, обещал начальству пожаловаться. А в службе такси, если клиент пожаловался, можешь сразу же остаться без работы. Правда, жалобы не поступило.

Был случай, когда пришлось везти поддатого мужчину из Веснянки в Чижовку. Всю дорогу он пытался открыть двухлитровую бутылку пива, но я не позволила ему это сделать. Машина была новая, боялась, чтобы не залил мне салон.

Приехали, он бросает на панель 5 рублей, хотя поездка стоила около 20 рублей. Я говорю: «Будьте любезны, оплатите по чеку». Нагло так отвечает: «Тебе и столько хватит». Да еще и локтем так пнул в руку, что затем



синяк неделю не сходил. А затем и бутылку открыл, и все эта жидкость с пеной залила салон. Думаю: а вот этого я тебе не прощу! Вызвала ребят из такси на помощь.

Коллеги приехали в течение минуты, затем и милиция появилась. Спрашивают у меня: «Заявление писать будете?» Не буду, говорю, если оплатит поездку и чистку салона. К тому же еще и стеклоподъемник залил. Пришла жена этого мужчины, начала причитать: ой-ой-ой, он у меня больной, пожалейте несчастного! Правда, все оплатила, так что претензии отпали. А жена, видимо, повела домой лечить этого «больного».

**– Знакомые таксисты мне рассказывали, что молодежь тоже веселая публика…**

– О, эти под градусом любят повеселиться в машине! Ноги в форточку, девушки голой грудью туда же – всякое повидала!

Но голая грудь – это еще полбеды. Как-то проституток везла, переезжали с одного «места работы» на другое. Видимо, на прежней точке «клева» не было. Едут, в подробностях обсуждают некоторые «производственные» детали. Одна спрашивает: «У вас зеркало есть?» Я опустила козырек с зеркалом и понимаю, что девушка не красится, а нюхает какой-то порошок. И здесь автомобиль дернулся, порошок упал на коврик машины. А я на авто за границу езжу, там же собаки нюхают машины на наркотики. Откуда мне знать, что там за порошок? Одним словом, и этих я выгнала из такси, потому что от таких клиентов можно заработать только головную боль.

Иногда ехала и думала: «Почему я, человек с высшим образованием, должна все это терпеть?»

Однако ложью будет говорить, что все клиенты – это только пьяницы, дебоширы и наркоманы. Было много хороших, интеллигентных пассажиров. Однажды в машину сели ребята из Одессы, оказалось, что привезли в наш дельфинарий дельфинов. Пригласили меня и моих детей бесплатно дельфинов посмотреть, на следующий день мы снова встретились.

### «Не такие уж и большие деньги»

**– «На чай» таксисту оставляют?**

– В последнее время очень редко. Раньше я думала, что женщине-водителю уж точно будут чаевые подбрасывать. Ничего подобного. Если поездка стоит 9 рублей 72 копейки, то как минимум 50 процентов клиентов будут сидеть и ждать 28 копеек сдачи.

За смену чаевыми могла насобирать около 10–15 рублей, но это не так уж и много. А если и оставляют, то при этом некоторые считают, что таксист должен быть как дворецкий – открыть дверь, помочь ему ног забросить в салон. Я, конечно, никогда не отказываюсь помочь человеку, если он в этом нуждается, но почему должна открывать дверь перед здоровым мужиком, который возомнил себя барином?

**– Вы сказали, что публика среди клиентов попадалась разная. Не было случаев, когда мужчины пробовали, скажем так, оказать вам знаки внимания?**

– За смену минимум четыре раза предлагали выйти замуж. Пытались знакомиться, приставать, но я могу сделать так, что человек пожалеет, что сел ко мне в машину. Пару раз «красиво» тормознешь, когда уж очень сильно кто-то начинает выпендриваться, сразу люди трезвеют и успокаиваются.

Да и в каждой машине такси есть кнопка, при помощи которой можно вызвать на помощь коллег. Приедут за пару секунд. Как-то тоже услышала сигнал SOS, приезжаю на место, а у таксиста в буквальном смысле огромная проблема. В салоне заснул пьяный пассажир – килограммов под 140–150! Водой поливали – не помогает. Кричали – не слышит. Вытащить из машины – невозможно. И я тогда, помню, тихонечко похлопала мужчину по щеке и ласково сказала на ушко: «Дорогой, просыпайся». Тот сразу глаза и открыл.

**– На заработки не жаловались?**

– Золотых гор не было – это точно. В месяц получалось где-то 600–700 рублей. Машина требовала внимания, бывали дни, когда в минус работала. Делаешь всего десять заказов и в итоге получаешь очень маленький заработок.

Но были и неплохие дни. Особенно когда приходилось везти клиентов из аэропорта. Помню, для пассажиров из мусульманских стран был шок, когда они видели, что за рулем – женщина. У них это не принято.

А самый мой большой заработок за одну смену – 150 долларов. Это было перед Новым годом, когда народ собирался на корпоративы.

**– А почему оставили эту работу?**

– Во-первых, организм – он не железный. Иногда так устаешь, что везешь клиента и забываешь, что он сидит в салоне. К тому же таксист – это еще и психолог. Ты целыми днями выслушиваешь всякую ерунду, пропускаешь через себя массу негативных эмоций. Такая работа забирает энергию.

Но, конечно, главное слово сказал муж. С его подачи я и ушла из такси. Он знает, что говорит, сам – бывший таксист…

**Алесь СИВЫЙ.**
**Фото автора.**

НЕСТАНДАРТ

# З Нью-Ёрка ў Гродна

*Пенсіянер з Амерыкі прыехаў з Нью-Ёрка ў Гродна па турыстычнай візе, за два тыдні здолеў падрыхтаваць выставу сваіх карцін, а зараз хоча тут ажаніцца і застацца жыць. З пенсіяй у 2 тысячы долараў гэта нескладана.*

Ількер Коджахан – амерыканскі пенсіянер турэцкага паходжання. Апошнія 17 гадоў жыў у Нью-Ёрку і працаваў архітэктарам. Некалькі гадоў таму страціў жонку, якая памерла пасля цяжкай хваробы. Яму зараз 63 гады, у яго двое дарослых дачкі. У лютым спадар Коджахан выходзіць на пенсію і вырашыў, што пераедзе жыць у Гродна.

### Уразіў горад і жанчыны

Чатыры месяцы таму Ількер Коджахан прыехаў у Беларусь у якасці турыста. Пазнаёміўся праз «Фэйсбук» з гродзенцамі, якія і запрасілі яго ў госці. 10 дзён ён жыў у сваіх знаёмых, яны паказалі яму горад, які яго вельмі ўразіў.

*«Да гэтага я быў у Брэсце і яшчэ некалькіх гарадах, але Гродна ўразіў найбольш. Мне вельмі спадабаліся яго архітэктура, утульнасць, спакой, людзі*, – кажа спадар Коджахан. – *Пасля таго як я бліжэй пазнаёміўся з Гродна, у мяне адпала жаданне ехаць у Мінск».*

Асабліва яго ўразілі сваёй прыгажосцю беларускія жанчыны, а на прыгажосць, паводле сваёй працы, ён звяртае ўвагу ў першую чаргу.



Са сваёй будучай жонкай мае намер узяць шлюб у Амерыцы, каб яна мела магчымасць мець грын-карту, але жыць надалей збіраецца толькі ў Гродне.

### Выставу рыхтаваў у кавярні

Пакольні спадар Ількер чалавек, які вельмі любіць сумоўе, у гродзенскай галерэі пазнаёміўся з супрацоўнікамі, якія і прапанавалі яму зрабіць выставу. Коджахан пагадзіўся на гэта, паколькі яму вельмі хацелася зрабіць нешта добрае для Гродна. Месца, дзе ён мог бы займацца працай, яму дапамаглі знайсці ў адной з гродзенскіх кавярняў.

*«У мяне здольнасць рабіць працу вельмі хутка і якасна*, – распавядае Коджахан. – *І гэта вельмі цанілі мае працадаўцы ў Амерыцы. Вось і тут я сядзеў з васьмі раніцы і да шасці гадзін вечара – маляваў. За два тыдні намаляваў 15 работ. Ад Гродна я атрымаў зарад энергіі і палічыў сваім абавязкам адказаць гэтаму гораду выставай. І назваў яе: "З Нью-Ёрка ў Гродна"*.

На яго карцінах пейзажы Нью-Ёрка, Лондана, Парыжа, іншых еўрапейскіх гарадоў і ландшафтаў, а таксама Гродна. Амаль на ўсіх карцінах дамінуе архітэктура – аўтар кажа, што гэта звязана з уплывам яго прафесіі. Хаця заўважае, што можа маляваць і людзей і жывёл, і думае, што наступная выстава будзе прысвечана чамунебудзь іншаму.

Паводле яго слоў, у Амерыцы адна яго карціна каштавала б ад 700 да 1400 долараў, а ў Гродне ён выставіў цану ў 350 рублёў.

*«Я разумею, што тут людзі не могуць купіць карціну за тысячу долараў, таму і выставіў цану даступную. Я паважаю людзей і таму зрабіў такія кошты»*, – кажа спадар Ількер.

### Не хачу больш працаваць у такім тэмпе, як у Амерыцы

Спадар Ількер кажа, што за час, праведзены ў Гродне, здолеў трохі зразумець, як тут жывуць людзі. Ён бачыць, што ў Беларусі невысокія заробкі. Але, з іншага боку, у краінах, дзе яму давялося пабываць, свае складанасці.

*«Канешне, тут людзі вельмі занепакоены тым, што мала зарабляюць, моладзь імкнецца выехаць на заробкі ў іншыя краіны*, – заўважае спадар Ількер. – *Але, з іншага боку, я павінен сказаць, што ў Нью-Ёрку 50 працэнтаў людзей нездаровыя, раздражнёныя, многія пакутуюць на дэпрэсію і іншыя псіхічныя захворванні, паколькі не могуць знайсці сябе ў тым тэмпе жыцця»*.

Паводле яго слоў, калі пачаў цікавіцца працай у Гродне, то яму ў адным месцы па ягонай спецыяльнасці прапанавалі заробак у 300 долараў.

Распавядаючы пра сваё жыццё ў Амерыцы, Коджахан кажа, што яго заробак штогод складаў больш за сто тысяч долараў, але працаваць яму даводзілася цэлы светлавы дзень.

*«Я выходзіў на працу а 6-й раніцы, а вяртаўся дахаты пасля 9 вечара*, – згадвае спадар Ількер. – *Працаваць у такім тэмпе мне ўжо цяжка. Я не хачу жыць без працы, але тэмп мушу змяніць»*.

У Амерыцы ён зарабіў пенсію 1500 долараў, яшчэ 500 долараў будзе атрымліваць ад Турцыі, але, каб жыць у Нью-Ёрку, такіх грошай замала, а жыць у Турцыі ён не хоча, таму і вырашыў шукаць месца жыхарства ў еўрапейскіх краінах.

*«У Лондане, Парыжы, у Італіі, мне падалося, жыць задорага. У Санкт-Пецярбургу, дзе таксама ёсць сябры, вельмі холадна, а ва Украіне – крызіс»*, – так ён выбіраў варыянты.

### «Мару рабіць сумесныя выставы з гродзенскімі мастакамі»

У Гродне спадар Ількер пазнаёміўся з некаторымі гродзенскімі мастакамі, наведваў іх майстэрні, бачыў, як яны працуюць. Паводле яго слоў, тут шмат таленавітых мастакоў, працы якіх варта паказваць як у Еўропе, так і ў Амерыцы.

*«Мяне ўразіла тое, што ўзровень мясцовых мастакоў, з кім я пазнаёміўся, цалкам адпавядае таму, што сёння ёсць і ў Нью-Ёрку, і ў Еўропе*, – дзеліцца ўражаннямі спадар Ількер. – *Цяпер у мяне ў планах рабіць сумесныя выставы з імі і паказваць іх не толькі ў Беларусі, а і ў іншых краінах»*.

А яшчэ ў планах спадара Ількера адкрыць у Гродне свой навучальны цэнтр і рыхтаваць архітэктараў і мастакоў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

### Семья умирающей Маргариты Тереховой объявила сбор денег на лечение актрисы



*Последние годы одна из самых удивительных советских и российских актрис 76-летняя Маргарита Терехова страдает от болезни Альцгеймера. Обращение родственников народной артистки России размещено на официальном сайте Союза кинематографистов России.*

*«Она прикована к постели, и ей требуются дорогостоящие лекарства, круглосуточный уход, поддерживающие ее комфортное состояние. Семья по мере сил и возможности обеспечивает достойный уход, но денег на это катастрофически не хватает»*, – говорится в заявлении. Семья, отмечается в обращении, будет благодарна за перечисление любой суммы.

В Гильдии актеров кино России уже заверили, что возьмут на себя часть затрат родственников актрисы на ее лечение, пишет РИА «Новости».

# Народная Воля 2019

## Студзень

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

## Люты

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | | | |

## Сакавік

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 |

## Красавік

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | | | | | |

## Май

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 |
| 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | | |

## Чэрвень

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

**ПРОСЬБА**

### Надрукуйце беларускі каляндар!

Напярэдадні Новага года ў мяне заўсёды адна праблема: дзе набыць каляндар на беларускай мове? Ну не разумею я сэнсу расійскіх назваў "август, сентябрь, октябрь". Больш прыемна і больш меладычна: жнівень, верасень, кастрычнік. У кішэнных каляндарыках праблема вырашаецца проста: закрэсліваю рускія назвы і пішу беларускія. А вось з календарамі на сцяну складаней. Набыць іх удавалася толькі зрэдку. І вось днямі "Народная Воля" прапанавала цудоўны варыянт – каляндар са спісам рэлігійных свят для ўсіх канфесій. Але я не паверыў сваім вачам…
Шаноўная рэдакцыя! У нас дзве дзяржаўныя мовы. Праўда, гэта ў тэорыі. А на практыцы беларускую мову можна пачуць толькі праз абвесткі ў аўтобусах, цягніках ці на імшы ў касцёле. Таму, паважаны спадар Сярэдзіч, вельмі прашу надрукаваць беларускі варыянт календара ў адным з нумароў "Народнай Волі". Дзякуй!

**Вяслаў Ярмак.** г.Ліда.

**АД РЭДАКЦЫІ**
Прызнаемся, не толькі спадар Ярмак папрасіў нас надрукаваць каляндар на беларускай мове. Ёсць падобныя лісты ад іншых аўтараў, многія тэлефанавалі і выказвалі такое ж пажаданне. Таму рэдакцыя вырашыла пайсці насустрач шматлікім чытачам "Народнай Волі".

## Каляндар асноўных праваслаўных святаў і постаў

**28 красавіка – Пасха Хрыстова (Вялікдзень).**

*Двунадзясятыя пераходныя святы*
**21 красавіка** – Уваходжанне Госпада ва Іерусалім (Вербная нядзеля).
**6 чэрвеня** – Унебаўшэсце Гасподняе.
**16 чэрвеня** – Дзень Святой Тройцы (Сёмуха). Пяцідзясятніца.

*Двунадзясятыя непераходныя святы*
**7 студзеня** – Нараджэнне Гасподняе.
**19 студзеня** – Хрышчэнне (Вадохрышча).
**15 лютага** – Грамніцы (Спатканне Гасподняе).
**7 красавіка** – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы.
**19 жніўня** – Праабражэнне Гасподняе.
**28 жніўня** – Прачыстая (Дзень спачыну Прасвятой Багародзіцы).
**21 верасня** – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы.
**27 верасня** – Узвіжанне Крыжа Гасподняга.
**4 снежня** – Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы.

*Вялікія святы*
**14 студзеня** – Абразанне Гасподняе. Памяць Свц. Васілія Вялікага.
**7 ліпеня** – Нараджэнне Іаана Прадцечы.
**12 ліпеня** – Святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.
**11 верасня** – Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы.
**14 кастрычніка** – Покрыва Прасвятой Багародзіцы.

*Шматдзённыя посты*
Вялікі пост – **з 11 сакавіка да 27 красавіка**.
Пятроў пост – **з 24 чэрвеня да 11 ліпеня**.
Успенскі пост – **з 14 па 27 жніўня**.
Пост перад Раством Хрыстовым (Піліпаў пост) – **з 28 лістапада 2019 года да 6 студзеня 2020 года**.

*Аднадзённыя посты*
Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усёедных тыдняў і Каляднага перыяду.
Навячэр'е Богаяўлення – **18 студзеня**.
Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы – **11 верасня**.
Узвіжанне Крыжа Гасподняга – **27 верасня**.

*Усёедныя тыдні (па серадах і пятніцах посту няма)*
Калядны перыяд – **з 7 па 17 студзеня**.
Мытара і фарысея – **з 17 па 23 лютага**.
Сырны (Масленічны) – **з 4 па 10 сакавіка**.
Пасхальны (Светлы) – **з 28 красавіка па 4 мая**.
Траецкі – **з 16 па 22 чэрвеня**.

*Дні асаблівага памінання спачылых*
Субота мясапусная (Усяленская бацькоўская субота) – **2 сакавіка**.
Субота 2-га тыдня Вялікага посту – **23 сакавіка**.
Субота 3-га тыдня Вялікага посту – **30 сакавіка**.
Субота 4-га тыдня Вялікага посту – **6 красавіка**.
Радаўніца – **7 мая**.
Памінанне спачылых воінаў – **9 мая**.
Субота Траецкая – **15 чэрвеня**.
Субота Дзімітрыеўская – **2 лістапада**.

## Каляндар асноўных каталіцкіх святаў

**1 студзеня** – Найсвяцейшай Панны Марыі.
**6 студзеня** – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі).
**13 студзеня** – Вадохрышча.
**25 студзеня** – Абарачэнне Святога апостала Паўла.
**2 лютага** – Ахвяраванне Пана.
**11 лютага** – Найсвяцейшай Панны Марыі з Лурда.
**6 сакавіка** – Папялец (пачатак Вялікага посту).
**10 сакавіка** – 1-я нядзеля Вялікага посту.
**17 сакавіка** – 2-я нядзеля Вялікага посту.
**19 сакавіка** – Святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.
**24 сакавіка** – 3-я нядзеля Вялікага посту.
**25 сакавіка** – Дабравешчанне.
**31 сакавіка** – 4-я нядзеля Вялікага посту.
**7 красавіка** – 5-я нядзеля Вялікага посту.
**14 красавіка** – Вербная нядзеля.
**18 красавіка** – Вялікі чацвер.
**19 красавіка** – Пакутная пятніца.
**20 красавіка** – Святая субота.
**21 красавіка** – Вялікдзень.
**22 красавіка** – Велікодны панядзелак.
**25 красавіка** – Марка Евангеліста.
**29 красавіка** – Нядзеля літасці Пана.
**29 красавіка** – Кацярыны Сіенскай.
**3 мая** – Святых апосталаў Піліпа і Якава.
**10 мая** – Найсвяцейшай Панны Марыі Лагішынскай.
**13 мая** – Найсвяцейшай Панны Марыі Фацімскай.
**14 мая** – Святога апостала Матфія.
**16 мая** – Андрэя Баболі.
**30 мая** – Унебаўшэсце Пана.
**31 мая** – Наведванне Найсвяцейшай Паннай Марыяй Елізаветы.
**9 чэрвеня** – Спасланне Духу Святога (Пяцідзясятніца).
**10 чэрвеня** – Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Цэркваў.
**13 чэрвеня** – Пана нашага Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.
**16 чэрвеня** – Найсвяцейшай Тройцы.
**20 чэрвеня** – Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста.
**24 чэрвеня** – Нараджэнне Святога Яна Хрысціцеля.
**28 чэрвеня** – Найсвяцейшага Сэрца Езуса.
**29 чэрвеня** – Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі. Святых апосталаў Пятра і Паўла.
**2 ліпеня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай, апякункі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.
**3 ліпеня** – Святога апостала Фамы.
**11 ліпеня** – Бенядзікта Нурсійскага.
**16 ліпеня** – Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель.
**23 ліпеня** – Брыгіты Шведскай.
**25 ліпеня** – Святога апостала Якава.
**6 жніўня** – Перамяненне Пана.
**9 жніўня** – Тэрэзы Бенядзікты Крыжа.
**15 жніўня** – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі.
**22 жніўня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы.
**24 жніўня** – Святога апостала Варфаламея.
**26 жніўня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Чэнстахоўскай.
**29 жніўня** – Усекнавенне галавы Яна Хрысціцеля.
**8 верасня** – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.
**12 верасня** – Найсвяцейшага Імя Марыі.
**14 верасня** – Узвышэнне Святога Крыжа.
**15 верасня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.
**21 верасня** – Святога апостала Матфея.
**29 верасня** – Святых арханёлаў Міхаіла, Гаўрыіла і Рафаіла.
**2 кастрычніка** – Анёлаў-Ахоўнікаў.
**7 кастрычніка** – Найсвяцейшай Панны Марыі Святога Разарыя.
**18 кастрычніка** – Святога Лукі Евангеліста.
**28 кастрычніка** – Святых апосталаў Сымона і Іуды.
**1 лістапада** – Усіх Святых.
**2 лістапада** – Успамін усіх памерлых вернікаў.
**9 лістапада** – Асвячэнне Латэранскай базілікі.
**16 лістапада** – Найсвяцейшай Панны Марыі Вострабрамскай.
**21 лістапада** – Ахвяраванне Найсвяцейшай Панны Марыі.
**24 лістапада** – Хрыста, Валадара Сусвету.
**1 снежня** – 1-я нядзеля Адвэнту.
**8 снежня** – Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі. 2-я нядзеля Адвэнту.
**12 снежня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Гвадэлупскай.
**15 снежня** – 3-я нядзеля Адвэнту.
**22 снежня** – 4-я нядзеля Адвэнту.
**24 снежня** – Вігілія Нараджэння Пана.
**25 снежня** – Нараджэнне Пана.
**26 снежня** – Стэфана Першапакутніка.
**27 снежня** – Святога апостала Яна Багаслова.
**28 снежня** – Святых бязгрэшных немаўлят віфлеемскіх.
**29 снежня** – Святой Сям'і.

## Каляндар іўдзейскіх святаў і постаў

**7 студзеня** – Рош ходэш Шват.
**21 студзеня** – Ту бі-Шват (Новы год дрэў).
**5 лютага** – Рош ходэш Адар.
**19 лютага** – Пурым катан.
**25 лютага** – Таатніт Эстэр.
**7 сакавіка** – Рош ходэш Адар.
**20 сакавіка** – Пост Эстэр.
**21 сакавіка** – Пурым.
**6 красавіка** – Рош ходэш Нісан.
**19 красавіка** – Пост першынцаў.
**20 красавіка** – Песах, свята ў гонар выхаду ізраільцян з Егіпта.
**5 мая** – Рош ходэш Іяр.
**19 мая** – Песах шені.
**23 мая** – Лаг ба-Омер.
**4 чэрвеня** – Рош ходэш Сіван.
**9 чэрвеня** – Шавуот (свята ў памяць Даравання Торы ізраільцянам на Сінаі).
**3 ліпеня** – Рош ходэш Тамуз.
**21 ліпеня** – Пост 17 тамуза.
**2 жніўня** – Рош ходэш Ав.
**11 жніўня** – Пост 9 ава ў памяць разбурэння Храма вавіланянамі і рымлянамі.
**31 жніўня** – Рош ходэш Элул.
**30 верасня** – Рош а-Шана 5780 (Новы год), Дзень Суда і Літасці Усемагутнага.
**2 кастрычніка** – Пост Гедаліі.
**9 кастрычніка** – Ём Кіпур (Дзень Усеагульнага прабачэння, посту і малітвы).
**14 кастрычніка** – Сукот (свята ў памяць Паходу ізраільцян у пустэльні).
**21 кастрычніка** – Шыміні Ацэрэт. Сімхат-Тора, завяршэнне восеньскіх святаў і пачатак новага чытання тыднёвых раздзелаў Торы.
**29 кастрычніка** – Рош ходэш Хешван.
**28 лістапада** – Рош ходэш Кіслеў.
**23 снежня** – Ханука (свята ў памяць вызвалення Храма з рук грэкаў і здраднікаў, ачышчэння пасля апаганьвання і новага асвячэння Храма).
**28 снежня** – Рош ходэш Тэвет.
*Усе іўдзейскія святы пачынаюцца вечарам папярэдняга дня пасля заходу першых трох зорак.*

## Каляндар мусульманскіх святаў і памятных дат

**7–8 сакавіка *(30 джумада – 1 раджаба)* –** Ноч Рагаіб (Жаніцьба бацькоў Прарока).
**2–3 красавіка *(26–27 раджаба)*** – Ноч Мірадж (ушэсця Прарока).
**19–20 красавіка *(14–15 шаабана)*** – Ноч ачышчэння ад грахоў (Лейлят аль-Бараа).
**6 мая *(1 рамадана)* –** Пачатак посту Рамадан (Ураза).
**31 мая –1 чэрвеня *(26–27 рамадана)* –** Ноч Прадвызначэння (Ляйлят аль-кадр).
**4 чэрвеня *(1–3 шаваля)* –** Свята разгавення, Ураза-Байрам (іт аль-фітр).
**10 жніўня *(9 зуль-хіджа)*** – Дзень Арафа (стаянне на гары Арафат).
**11–14 жніўня *(10–13 зуль-хіджа)* –** Свята ахвярапрынашэння, Курбан-Байрам (іт аль-адха).
**31 жніўня *(1 мухарама)*** – Пачатак 1441 года ад Хіджры Прарока.
**9 верасня *(10 мухарама)*** – Дзень Ашура (дзень памінання пракаў і пасланнікаў Алаха).
**8–9 лістапада *(11–12 рабі аль-аваля)*** – Ноч нараджэння Прарока Мухамада (Маўлід ан-Набі).
Даты мусульманскіх святаў і памятных дат вызначаны адпаведна з астранамічным Месяцовым календаром і прыведзены для Беларусі. Могуць адрозніваецца ад звестак іншых крыніц у сувязі з рознай трактоўкай моманту надыходу маладзіка.

## Ліпень

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 |
| 29 | 30 | 31 | | | | |

## Жнівень

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | |

## Верасень

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

## Кастрычнік

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

## Лістапад

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | |

## Снежань

| П | А | С | Ч | Пт | Сб | Н |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | 31 | | | | | |

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

**Заснавальнік і галоўны рэдактар**
**Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.01.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 025 экз. Заказ № 94.




